НАША СВАБОДА

№57(144) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

4 ЧЭРВЕНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Жывыя, здаровыя, і кожны пры сваіх

*Як і чакалася, 28-я сустрэча кіраўнікоў краінаў-чальцоў Садружнасці незалежных дзяржаваў не прынесла якога-небудзь бачнага плёну. Прэзідэнты сабраліся ў Мінску на два дні – 31 траўня і 1 чэрвеня – ды правялі шэраг двухбаковых сустрэчаў, пасля чаго разляцеліся па родных хатах. Рэанімацыя СНД не ўдалася.*




Фота IREX/ProMedia

Пасля дзіўнага выбуху гранаты ніводзін чалавек не мог падысці да кіраўнікоў СНД

І да пачатку саміта, і падчас яго афіцыйныя асобы і дзяржаўная прэса да нябёсаў узносілі гэтае мерапрыемства, гучна разважалі пра «новую энергетыку Садружнасці» і рыхтаваліся святкаваць 10-годдзе аморфнай СНДшнай фармацыі.

Насамрэч усё адбылося куды больш сціпла. Замест адраджэння СССР/СНГ 5 краінаў – Беларусь, Расія, Казахстан, Кыргызстан і Таджыкістан – завяршалі ўтварэнне Еўразійскай эканамічнай супольнасці (ЕўрАзЭС). Расійскі прэзідэнт сустракаўся з усімі, з кім мог. У прыватнасці, прайшла і ягоная сустрэча «сам-насам» з беларускім кіраўніком Аляксандрам Лукашэнкам. Па неафіцыйнай інфармацыі, размова ішла пра восеньскія прэзідэнцкія выбары ў Беларусі.

На фоне гіперактыўнага расійскага прэзідэнта А.Лукашэнка быў на саміце амаль не заўважным. Ягоная ідэя прыняць зварот кіраўнікоў дзяржаваў СНД да сваіх народаў і да міжнароднай супольнасці з нагоды 60-годдзя з пачатку Вялікай Айчыннай вайны была падтрыманая іншымі ўдзельнікамі саміта. І ўсё. Ні адзін прэзідэнт не выказаўся публічна на карысць патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты Беларусі А.Лукашэнкі, не падтрымаў ягоны курс. Нават гасцінная прапанова беларускага кіраўніка праводзіць усе наступныя саміты толькі ў Мінску – вялізныя выдаткі для Беларусі і такая ж эканомія для ўсіх астатніх удзельнікаў – засталася без увагі. Наступны – «юбілейны» саміт СНД – запланаваны ў Маскве на снежань гэтага года.

Адзіным «парушальнікам спакою» стаўся прэзідэнт Узбекістана Іслам Карымаў. Ён прыляцеў у Мінск толькі 1 чэрвеня і раскрытыкаваў усё, што рабілася на саміце. Асабліва яму не спадабалася ЕўрАзЭС і дамінуючая роля ў ёй Казахстана (казахскі прэзідэнт Нурсултан Назарбаеў стаў старшынёй ЕўрАзЭС).

**«Гэта чарговая ініцыятыва для адцягнення ўвагі народаў**, спроба шэрагу кіраўнікоў краінаў СНД узяць лаўры інтэгратараў, – заявіў прэзідэнт Узбекістана.– Адрозненні ЕўрАзЭС ад Мытнага саюза не назавуць нават ініцыятары яе стварэння».

Нагадаем, што ідэя Еўразійскай эканамічнай супольнасці ўзнікла і была прасунутая казахскім прэзідэнтам Н.Назарбаевым пасля таго, як папярэднік ЕўрАзЭС – Мытны саюз (удзельнікі – тыя ж) – канчаткова праявіў сваю поўную бездапаможнасць. Пяць краінаў не маглі дамовіцца ні да чаго, надта розныя ў іх інтарэсы.

Іслам Карымаў таксама адмовіўся вяртаць сваю краіну ў Дамову аб калектыўнай бяспецы, з якой Узбекістан разам з Азербайджанам і Грузіяй выйшаў у 1999 годзе. Гэтага вяртання чакалі – асабліва пасля таго, як у сярэдзіне траўня І.Карымаў дамогся сустрэчы з У.Пуціным у Крамлі і сам прасіў, каб Расія дапамагла ў барацьбе з узбекскімі ісламістамі. Але ў Мінску меркаванне прэзідэнта Узбекістана радыкальна змянілася.

*Заканчэнне на стар.3*

## КДБ цікавіцца замежнымі бізнесменамі

Начальнік аддзела па эканамічнай бяспецы Управы КДБ па Магілёўскай вобласці У.Гатоўчык звярнуўся да кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў рэгіёна па супрацоўніцтва.

Ён папрасіў за трое сутак да візіту замежнікаў на прадпрыемствы інфармаваць пра гэта КДБ. Маўляў, такія госці чыняць шпіёнскую дзейнасць.

## БПСМаўцы затрымалі Пуціна

Паводле незарэгістраванага студэнцкага руху «Зубр», 1 чэрвеня каля Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта дружынай БПСМ быў затрыманы студэнт гэтай ВНУ і грамадзянін Расіі Яраслаў Пуцін. Ён быў затрыманы за тое, што нібыта клеіў апазіцыйныя налепкі.

## Выява Лукашэнкі – культурны скарб

Рашэннем Дзяржаўнага камітэта аховы гісторыка-культурнай спадчыны статус гістарычнай каштоўнасці нададзены шэрагу новых аб'ектаў. Сярод іншага ў адмысловы дзяржаўны спіс занесены і «Габелен стагоддзя» з выявай А.Лукашэнкі.

## «Мабільнікі» дабраліся да метро

З 30 траўня абаненты мабільнай тэлефоннай сеткі стандарта *GSM* могуць карыстацца апаратамі і ў сталічным метро. «Мабільнікі» сталі працаваць у раёне станцыяў «Кастрычніцкая» і «Купалаўская».

## Медалістаў паменее

У міністэрстве адукацыі робяць прагноз, што медалісты сёлета складуць каля 10% ад усіх выпускнікоў школаў. А вось у будучым гэта лічба мусіць зменшыцца, бо мінадукацыі выдала распараджэнне, паводле якога залатым медалём будуць узнагароджвацца толькі тыя школьнікі, якія вучыліся на пяцёркі з 8 па 11 класы.

## Нашым не шанцуе

Гандбалісты мужчынскай зборнай Беларусі правялі ўчора ва Уручы першы з двух матчаў супраць каманды Ісландыі за выхад у чэмпіянат Еўропы-2002. Вынік 30:23 на карысць ісландскіх спартсменаў. Паядынак у адказ пройдзе ў наступную нядзелю. Уладальнік пуцёўкі вызначыцца па суме дзвюх сустрэчаў.

**Аўгуст, Пётр і полацкае золата**

*Многія сталіцы аздоблены нарабаваным у Беларусі*

стар.7

**Рыцарскія разборкі напярэдадні турніру**

*Як і ў сярэднявеччы, рыцары лічаць камерсантаў за сваіх ворагаў*

стар.5

# Кім ёсць Ігнатовіч у сапраўднасці?

## *Расследаванне гучнага зінкнення*

*31 траўня ў Цэнтры прававой дапамогі была запланаваная канферэнцыя з удзелам бацькоў Валерыя Ігнатовіча – абвінавачанага па справе выкрадання аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага і шэрагу іншых злачынстваў.*

*Але бацькі Ігнатовіча на прэс-канферэнцыю не з'явіліся.*

Кіраўнік «Цэнтра прававой дапамогі« адвакат Вера Страмкоўская сказала ўступнае слова, у якім абгрунтавала неабходнасць правядзення прэс-канферэнцыі. Вера Страмкоўская сказала, што прэс-канферэнцыя арганізаваная, «каб стварыць аб'ектыўны погляд на праблему, якая зараз хвалюе ўсіх – выкраданне людзей у Беларусі».

У сувязі з тым, што ўжо скончанае расследаванне па крымінальнай справе пра выкраданне Дзмітрыя Завадскага, азнаямленне, хутка справа будзе перададзеная ў суд. Хутчэй за ўсё, працэс будзе зачынены (наколькі я мяркую). Але тыя факты і тыя абставіны, якія сталі вядомыя ад блізкіх Ігнатовіча, я лічу патрэбна данесці да грамадскасці, каб можна было аб'ектыўна паглядзець на праблему. Сёння мы ў Беларусі маем практыку «Віцебскай справы». Пры наяўнасці зачыненага працэсу, пры адсутнасці незалежных экспертыз цяжка будзе меркаваць, наколькі будзе справядлівае судовая пастанова. Ёсць чалавек, які ідэальна падыходзіць на ролю злачынцы, маецца на ўвазе Ігнатовіч – ён і ў «Алмазе» служыў, і ў РНЕ знаходзіўся, і прымаў удзел у баявых дзеяннях у Чачні. Але пры гэтым можа стварыцца такая сітуацыя, калі ідэальна падыходзячы на ролю злачынцы чалавек будзе не вінаваты, а «падстаўлены». Ім будзе закрытая праблема.

У такім выпадку гэта будзе несправядлівае судовае рашэнне, а толькі спроба ўлады закрыць гэтую праблему, паказаць усім, што вінаватыя знойдзеня і пакараныя. Але наколькі гэтыя вінаватыя сапраўды з'яўляюцца вінаватымі? Наколькі мы будзем адчуваць сябе ў бяспецы? І наколькі сем'і зніклых могуць быць упэўненыя, што гэта сапраўды той чалавек, які нясе адказнасць за зікненне Дзмітрыя Завадскага? Вось гэтая праблема на сённяшні дзень сапраўды з'яўляецца важнай і вострай. Паколькі мы будзем пазбаўленыя назіраць, а я так думаю, што мы будзем пазбаўленыя магчымасці назіраць судовы працэс, можна абапірацца на факты, якія сёння будуць прадстаўленыя. Вядома пра ліст Ігнатовіча з Рэспубліканскай псіхіятрычнай клінікі з Навінак, дзе расказана, як дапрошвалі людзей, абвінавачаных па справе Завадскага, што ім спачатку робяць уколы, а пасля вядуць на допыт з цяжкой галавой, пра тое, як іх збівалі да крыві. Наколькі гэта сапраўды садзейнічае раскрыццю злачынства?

*Заканчэнне на стар.5*

# Заметалин хотел, чтобы в российском посольстве погибли люди

В интервью «Интерфаксу» в четверг в Минске В.Заметалин дал понять, что не исключает причастность представителей праворадикальной оппозиции к организации взрыва гранаты на территории дипломатической миссии России.

«Это — абсолютно безрассудная акция отчаяния людей, политиков, которые не могут остановить закономерно развивающийся процесс интеграции Беларуси и России. Отсюда и степень безрассудства. **Бросать гранату туда и в то время, где нет людей, кроме сторожей и милиционера, говорит о политической подоплеке акции, возможно, психически нездоровых людей, которых немало в оппозиционных кругах»**, — сказал В.Заметалин.

По его мнению, психически здоровые люди бросили бы гранату в посольство России днем. Поэтому показательным, по его мнению, является тот факт, что взрыв произошел в ночь перед сразу несколькими важнейшими политическими событиями.

«Оппозиция крайне негативно относилась и относится к самой идее белорусско-российской интеграции, она не воспринимает Москву как геополитическую данность. Это проявляется в митингах, демонстрациях, провокациях», — сказал В.Заметалин.

«Оппозиция всегда, особенно в нынешнее время, накануне президентских выборов в стране, заинтересована иметь положительный облик, лицо Беларуси и прежде всего Минска, как места, где сохранялась достаточно спокойная и стабильная общественно-политическая обстановка. Это крайне диссонирует с навязанным оппозицией образом Беларуси как тоталитарного государства. Для достижения этой цели, как, вероятно, считает оппозиция, все средства хороши», — заявил В.Заметалин.

**Всесоюзное агентство «Интерфакс» (www.interfucks.com)**

## НАДВОР'Е




## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1380

СІЛАВІКІ

## У Гродне забараняюць фатаграфаваць

1 чэрвеня ў Гродне супрацоўнікі міліцыі затрымалі фотакарэспандэнта газеты «Пагоня» Аляксея Салея за тое, што ён фатаграфаваў, як салдаты рукамі вырывалі траву каля будынка аблвыканкама – наводзілі парадак перад прыездам замежных гасцей. Фатографа завялі ў будынак аблвыканкама і патэлефанавалі ў КДБ. Дзве гадзіны чакалі супрацоўніка КДБ, які не прыехаў. Урэшце фатографа адпусцілі.

**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

## Тэрыторыя, не свабодная ад лукашызму

У Слоніме актывіст «Зубра» Алесь Масюк пакараны адміністратыўнай камісіяй. Яму прызначаны штраф памерам 5 мінімальных заробкаў. Віна яго была ў тым, што ён меў улёткі аб сацыяльных праблемах, газету «Зубр» і налепкі з тэкстам «Территория, свободная от лукашизма».

Цікава, што паседжанне камісіі павінна было адбыцца яшчэ 16 траўня. Аднак хлопец папрасіў яго перанесці. Але камісія сабралася без яго, бо рашэнне аб штрафе пазначана менавіта 16 траўня.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ЮСТЫЦЫЯ

## Праваабаронцы па-за законам?

4 чэрвеня Вярхоўны суд Беларусі вынесе вердыкт па скарзе заснавальнікаў праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога грамадзянам».

Нагадаем, што кіраўнікі мінскай гарадской арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву», якія выступілі заснавальнікамі рэспубліканскай арганізацыі, абскардзілі адмову міністэрства юстыцыі ў рэгістрацыі гарамадскага аб'яднання. Рэч у тым, што міністр Генадзь Варанцоў у адказе напісаў, што «прававую дапамогу» маламаёмасным слаям насельніцтва могуць аказваць толькі адвакаты. Прэзідэнт «Прававой дапамогі насельніцтву» Алег Волчак заяўляе пра палітычны падтэкст адмовы.

1 чэрвеня адвакат Гары Паганяйла даказваў суду, што артыкул 62 Канстытуцыі ўзору 1996 года дазваляе грамадскім аб'яднанням аказваць прававую дапамогу грамадзянам. Сённяшні вердыкт суда можа стаць прэцэдэнтам. Вярхоўны суд мусіць патлумачыць, што такое «прававая дапамога» і ці могуць яе аказваць грамадскія арганізацыі? Калі суд не задаволіць іск заснавальнікаў «Прававой дапамогі грамадзянам», то гэта, як лічыць Алег Волчак, «паставіць пад сумнеў дзейнасць *усіх* праваабарончых арганізацыяў», бо атрымаецца, што яны знаходзяцца па-за законам.

**Рыгор БУЯН**



## Звальненні на «Віцязі»

На трохдзённы працоўны тыдзень пераведзенае рэспубліканскае унітарнае вытворчае прадпрыемства «Віцязь». У сувязі з пагаршэннем яго эканамічнага становішча тут чакаецца масавае скарачэнне персаналу – ад адной трэці да паловы, гэта значыць ад 2 да 3 тысяч чалавек.

Пад скарачэнне трапляюць нават тыя, хто многія гады складаў кадравы касцяк «Віцязя». Іх спадзяванні на чарговую субсідыю не апраўдаліся. Субсідыя атрыманая, а звальненні ўсё роўна будуць. Гавораць і аб пераводзе «Віцязя» на гэтак званую «адвёрткавую» тэхналогію, пры якой для выпуску, напрыклад, лічбавага тэлевізара «Элегант» з кінескопам фірмы «Філіпс» дастаткова некалькіх соцень работнікаў. Непатрэбнымі будуць многія інжынеры, тэхнікі, канструктары, дызайнеры.

У комплексе прычынаў такой эканамічнай сітуацыі на «Віцязі» называюцца яго ўласныя даўгі, дзяржаўныя падаткі і нізкая пакупная здольнасць насельніцтва.

**Леанід СІМАНАЎ**

## Гарачая вада тры разы на тыдзень

З 1 чэрвеня ў раённым цэнтры Берастовіца Гродзенскай вобласці і ў шэрагу суседніх населеных пунктаў гарачая вада будзе падавацца па графіку: толькі тры разы на тыдзень – у пятніцу, суботу і нядзелю. Такое рашэнне ў адпаведнасці з распараджэннем Гродзенскага аблвыканкама прыняў мясцовы райвыканкам.

Рашэнне будзе дзейнічаць да пачатку ацяпляльнага сезону, гэта значыць, да 15 кастрычніка. Спыненне штодзённай падачы гарачай вады звязанае з вялікай запазычанасцю раёна за газ і электраэнергію, якая на сённяшні дзень складае 470-500 мільёнаў рублёў.

У выніку рашэння мясцовых уладаў аб пераходзе на падачу гарачай вады па графіку санстанцыя закрывае мясцовы дзіцячы сад, дзе выхоўваецца каля 240 дзяцей. Для аднаўлення працы дзіцячай установы неабходна ўсталяваць аўтаномны абагравальны кацёл.

**Павел МАЖЭЙКА**

## Гнілая галава

Даўно жыву на свеце, шмат чаго пабачыў, многа памятаю. Памятаю, калі мы ўжо былі самі па сабе, жылі ў сваёй краіне вольным самапасам, як дзеці на прыродзе, без Лукашэнкі і яго ных прагматыкаў, дык не было ў нас ні тэрарыстаў, ні ворагаў дзяржавы, ні «чэсных» журналістаў, ні шпіёнаў, ні «радзікальнай» апазіцыі, ні «вашывых блох», ні расейскіх фашыстаў. Ніхто не рваў гранаты ў пасольствах. Не стралялі па членавозах пад Лёзна. Не знікалі сярод белага дня людзі. Не саджалі ў астрог за дэманстрацыі і пікеты. Не дзяліліся на варожыя лагеры грамадства. Першыя асобы дзяржавы прымалі ў Мінску прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі. Міжнародная супольнасць давала нам крэдыты ў памеры мільярда долараў. Ніхто не нудзіў бясконца па тэлевізары, не лез у душу са сваімі клопатамі аб народзе і з калхознымі павучаннямі. Не кублавалася ў Беларусі камуністычна-шавіністычная навала са ўсяго свету. Сівыя ветэраны не калупаліся ў грамадскіх памыйніцах. Ніхто так зацята не душыў беларускую культуру і мову. Беларусы свабодна і танна прывозілі з Захаду аўтамабілі. Ад прыватнага бізнесу ішлі вялізарныя грошы ў дзяржбюджэт. Тады яшчэ не засявалі і не забудоўвалі чарнобыльскія землі. У калгасах не рэзалі вясной кароў ад бяскорміцы. Ніхто не баяўся казаць праўды. Праваслаўныя, каталікі і пратэстанты жылі супольна і радасна. Не знялі мы тады ні наркотыкаў, ні такога п'янства, ні такога хабарніцтва. Міліцыянты ветліва ўсміхаліся і, перш чым звярнуцца да грамадзяніна, называлі сваё прозвішча і званне. І, самае цікавае, што ўжо тады, сем гадоў назад, сярэдняя зарплата ў краіне была сто долараў. Толькі тады за сто долараў можна было цэлы месяц добра і якасна карміць сям'ю з чатырох чалавек.

Нездарма ж гавораць, што рыба гніе з галавы. Як яна загніла, дык і пачалося ў нас абы што. Дайшло, бачыце, ажно да выбухаў пасярод Мінска. Мусіць быць і горай, між іншым. Ведаеце, што можна нарабіць з гнілой галавой? Як глянуць за раз, адсюль, з дваццаць першага стагоддзя, дык, здаецца, найвыдатнейшае было жыццё. Але без Лукашэнкі. А вось за Лукашэнкам жыццё зразу змізарнела, пацямнела, скукслася, сапсавалася. Стала нейкім нішчымным і сіроцкім. Зразу дадалося ў нашых людзях злосці, зайздрасці, незадаволенасці, і пачалі яны гараваць. А што калі прычына ў гэтым самым Лукашэнку і ёсць? Калі без яго нам было добра, а з ім зрабілася дрэнна, дык, пэўна, трэба вярнуцца назад, на сем гадоў таму і пачаць зноў жыць без яго, як тады, па тых самых законах. Без прэзідэнтаў, ягоных адміністрацыяў, аховаў, спецсамалётаў, рэферэндумаў, уласных бюджэтаў, спецслужбаў, дэкрэтаў, тэлевыступленняў і палатак. Вялікая эканомія сродкаў атрымаецца, на якія, дарэчы, можна накарміць пенсіянераў, чарнобыльцаў і дзяцей. І ціха наўкола будзе.

**Аляксандар ДУБРАВІН**

ФОТАФАКТ




Я вас кахаў. Яшчэ жыве надзея...(беларускі народ пра валюту)

## Судовы іск апальнага «вертыкальшчыка»

У Маскоўскім судзе горада Брэста на гэтым тыдні павінен працягнуцца разгляд справы па іскавай заяве былога намесніка старшыні Брэсцкага аблвыканкама па эканоміцы і рынкавых адносінах Уладзіміра Сцяпанава да аднаго з кіраўнікоў мясцовай філіі «Саюза афіцэраў» В.Іванова і да абласнога тэлерадыёаб'яднання.

Адстаўны палкоўнік і падкантрольны «вертыкалі» тэлеканал абвінавачваюцца В.Сцяпанавым у дыскрэдытаванні яго як нежаданага для ўлады кандыдата ў дэпутаты Нацсходу. У мінулы чацвер В.Сцяпанаў і ягоны адвакат з'явіліся ў будынку суда на вуліцы Леваневскага, але ім паведамілі, што адказчыкі па справе знайшлі важкія падставы для адтэрміноўкі судовага паседжання.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Завочны прысуд

У ноч 31 траўня на 1 чэрвеня каля будынка адміністрацыі Партызанскага раёна Мінска былі затрыманыя актывісты маладзёжнага руху «Зубр» Цімох Дранчук, Аляксей Шыдлоўскі, Ірына Тоўсцік і Ігар Сюльд. На будынку быў надпіс «Зубр». Маладых людзей затрымалі за тое, што яны расклейвалі ўлёткі «Час выбіраць».

Затрыманых даставілі ва ўпраўленне міліцыі Партызанскага раёна. Іх абвінавацілі ў антысанітарыі і пратрымалі больш за 12 гадзінаў.

1 чэрвеня Ц.Дранчука даставілі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік на вуліцы Акрэсціна. Суд Цэнтральнага раёна Мінска вынес у адносінах Ц.Дранчука завочнае рашэнне – арышт на 15 сутак (за ўдзел у акцыі 25 сакавіка – Арт. 167.1 КаАП РБ). Аднак вечарам Дранчук быў выпушчаны са спецпрыёмніка-размеркавальніка ў сувязі з рэзкім пагаршэннем здароўя. У гэты ж дзень ад яго імя старшыні Мінскага гарадскога суда і пракурору Цэнтральнага раёна былі накіраваныя скаргі ў сувязі з незаконнай пастановай суда.

Вынясенне завочнага прысуду супярэчыць заканадаўству – справы, прадугледжаныя Арт. 167.1 КаАП РБ павінны быць разгледжаныя толькі ў прысутнасці правапарушальніка. Па факце парушэння заканадаўства ўжо накіраваная скарга на імя старшыні Мінскага гарадскога суда і заява пракурору Цэнтральнага раёна сталіцы.

**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

ЭКАЛОГІЯ

## Паветра зробіцца чысцей?

1 чэрвеня ў Беларусі пачалася экалагічная аперацыя «Чыстае паветра».

Як паведаміў БелаПАН начальнік аддзела па кантролі за выкідамі ад перасоўных крыніцаў міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Аляксандр Лежанкоў, ахова атмасфернага паветра ад яго забруджвання аўтамабілямі мае першаснае значэнне ў сувязі з тым, што аўтатранспарт дае прыкладна 70% усіх выкідаў ад перасоўных крыніцаў, або звыш паловы ўсіх забруджвальнікаў паветранага басейна краіны.

Асноўныя намаганні ўдзельнікаў акцыі будуць скіраваныя на праверку экалагічнай дзейнасці аўтапрадпрыемстваў, аўтарамонтных заводаў і станцыяў тэхнічнага абслугоўвання, а таксама транспартных сродкаў ва ўмовах дарожнага руху. Падчас аперацыі будзе ажыццяўляцца дзяржаўны кантроль за выкананнем нормаў і патрабаванняў дзяржстандартаў на таксічнасць і дымнасць адпрацаваных газаў, за наяўнасцю кантрольна-рэгулявальных пунктаў і дыягнастычных вартаў, аснашчаных неабходнымі і спраўнымі прыборамі кантролю і дыягностыкі.

**Марат ГАРАВЫ**

## Падвойны вобшук

1 чэрвеня супрацоўнікі Упраўлення Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі (УКАЗ) па Гомельскай вобласці пры МУС Беларусі правялі вобшук у рабочым кабінеце Наталлі Раўковай – жонкі былога прарэктара Гомельскага дзяржаўнага медінстытута Уладзіміра Раўкова, які абвінавачваецца ў хабарніцтве. Вобшук быў таксама праведзены ў кватэры, дзе жыве сям'я Раўковых.

Супрацоўнікі УКАЗ шукалі экзаменацыйныя лісты і копіі спісаў студэнтаў з адрасамі іх бацькоў. У пратаколах, складзеных па выніках абодвух вобшукаў, значыцца, што нічога не знойдзена і не канфіскавана. Наталля Раўкова падпісала абодва пратаколы, а таксама ўказала ў адным з іх, што расцэньвае факт правядзення вобшукаў як аказанне на яе псіхалагічнага ціску за тое, што яна прадпрымае актыўныя спробы даказаць парушэнне правоў свайго мужа на абарону і на аб'ектыўнае вядзенне следства.

**Ірына ШАНЦАВА**

ГАНДАЛЬ

## На Камароўцы паменела гандлёвых кропак

1 чэрвеня на мінскім Камароўскім рынку спынены гандаль бакалеяй з прычэпаў «Купава», палатак і кантэйнераў. Як паведаміў БелаПАН галоўны інжынер рынку Аляксандр Сцешкін, на пляцоўцы, дзе яны размяшчаліся, будзе пабудаваная шматузроўневая аўтастаянка накшталт размешчанага непадалёк ад «Паркінга».

Разам з тым на пляцоўцы каля ўваходу ў крыты рынак распачынаюцца працы па замене асфальтавага пакрыцця ходнікавай пліткай.

Пры наяўнасці сродкаў да верасня плануецца завяршыць рэканструкцыю сезоннага рынку. Старыя гандлёвыя месцы і навесы поўнасцю знясуцца і на іх месцы ўзвядзяцца новыя. Кошт рэканструкцыі, якую рынак вядзе за кошт уласных сродкаў, складае 3 мільёны долараў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Галоўнае – на сэрца не хварэць

За апошнія 5 гадоў у Беларусі на 17% узрасла колькасць захворванняў на сардэчна-сасудзістую сістэму, і зараз ад іх пакутуюць 2,5 мільёна беларусаў. Сярод усіх хваробаў па колькасці смяротных вынікаў яны займаюць першае месца – 53% смерцяў. Увогуле Беларусь з іншымі дзяржавамі СНД уваходзяць у групу краінаў з найбольш неспрыяльнай кардыялагічнай сітуацыяй.

Хварэць на сардэчна-сасудзістую сістэму да ўсяго вельмі дорага: платнае абследаванне ў Навукова-практычным цэнтры «Кардыялогія» каштуе каля 50 долараў, а адна аперацыя абыходзіцца дзяржаве ў 5 тысяч долараў. Але нават пры ўдалай праведзенай аперацыі, калі год не прымаць дарагія, але вельмі неабходныя лекі, у 80% выпадкаў стан пацыента зноў горшыцца, а некаторыя лекі хворыя павінны прымаць на працягу ўсяго жыцця.

Таму, каб неяк палепшыць кардыялагічную сітуацыю, па словах спецыялістаў НПЦ «Кардыялогія», неабходны фінансавыя ўкладанні ўрада. У тым ліку на льготнае набыццё хворымі адмысловых лекаў. Але самыя галоўныя захады павінны быць накіраваныя на папулярызацыю здаровага ладу жыцця: рацыянальнае харчаванне, спартовых нагрузак і пазбаўленне шкодных звычак. Напрыклад, Англія, Швецыя і Фінляндыя менавіта праз гэта за апошнія 20 гадоў здолелі знізіць паказальнікі захворвання сардэчна-сасудзістай сістэмы на 20-40%.

**Алена ЛАБАНАВА**

НАВУКА

## Філарэт – ганаровы доктар

У Гродзенскім медыцынскім універсітэце ўручаны дыплом доктара *honoris causa* мітрапаліту і патрыяршаму экзарху Філарэту. Разам з дыпломам ён атрымаў мантыю і медаль.

На ўрачыстасці ўладыка прачытаў даклад аб блізкасці рэлігіі і медыцыны. Універсітэцкай бібліятэцы ён прэзентаваў шматтомную гісторыю Рускай праваслаўнай царквы. Дагэтуль ён меў званне ганаровага доктара толькі багаслоўскіх факультэтаў, а таксама – Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На мерапрыемстве прысутнічаў старшыня аблвыканкама У.Савчанка. Уладыка прыязджаў у Гродна на вялікім лімузіне маркі «хюндай».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

 



# Жывыя, здаровыя, і кожны пры сваіх

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

«Дамова з'яўляецца ваенна-палітычнай арганізацыяй, а сяброўства ў такіх арганізацыях супярэчыць канстытуцыі Узбекістана, — заявіў Іслам Карымаў. – Усе пытанні бяспекі Узбекістан збіраецца вырашаць на двухбаковай падставе. У прыватнасці, мы гатовыя інтэгравацца з Расіяй у пытаннях бяспекі настолькі, наколькі да гэтага гатовая Расія».

Асноўнае эканамічнае пытанне, што абмяркоўвалася на саміце, – стварэнне на ўсёй тэрыторыі СНД зоны свабоднага гандлю – засталося нявырашаным. Расія, праўда, пахвалілася, што дамовілася аб стварэнні такой зоны з 10 краінамі – усе апроч Украіны.

У сваю чаргу, украінскі прэзідэнт Леанід Кучма заявіў, што Расія сама зрывае падпісанне двухбаковай дамовы з Украінай аб стварэнні зоны свабоднага гандлю. «Адносна таго, што Расійская Федэрацыя пагадзіцца ў бліжэйшы час на зону свабоднага гандлю, няма ніякіх спадзяванняў», — паведаміў украінскі прэзідэнт. Па ягоных словах, калі Расія захоча падпісаць такую дамову з Украінай, то выключыць са спісу «многія віды тавараў, што практычна зробіць зону свабоднага гандлю не зонай».

Л.Кучма заявіў таксама, што для яго сталася нечаканасцю ўвядзенне Расіяй з 1 ліпеня падатку на дададную вартасць на тавары, што імпартуюцца ў Расію. Па словах прэзідэнта Украіны, гэта робіць неканкурэнтаздольнымі шмат якія ўкраінскія тавары на расійскім рынку. «Пра тое, што Расія перайшла з 1 ліпеня на ўзяццё ПДВ, нам хацелася б даведвацца не з сродкаў масавай інфармацыі, а як партнёрам, каб з намі раіліся, паставілі ў вядомасць», — заявіў Л.Кучма ў мінулы чацвер журналістам у Мінску.

Асноўная палітычная тэма саміта – барацьба з міжнародным тэрарызмам і рэлігійным экстрэмізмам. Па словах У.Пуціна, тэрарызм звычайна прыкрывае інтарэсы наркадзялкоў. Прэзідэнты вырашылі актывізаваць дзейнасць Антытэрарыстычнага цэнтра СНД і змагацца з тэрарыстамі разам. Пры гэтым, Расія запатрабавала ад астатніх краінаў-сузаснавальніцаў Цэнтра выканання сваіх фінансавых абавязацельстваў. Па стане на апошні час, толькі тры краіны – сама Расія, Казахстан і Украіна – унеслі свой «пай» у антытэрарыстычную скарбонку.

Была таксама адноўленая дзейнасць Міждзяржаўнай камісіі па ваенна-тэхнічным супрацоўніцтве. Аналітыкі сцвярджаюць, што ў рамках гэтай камісіі цэнтральнаазіяцкія і некаторыя іншыя краіны змогуць дамаўляцца аб набыцці суперсучаснай расійскай ваеннай тэхнікі на больш спрыяльных умовах.

Пытанне ўрэгулявання лакальных канфліктаў у Абхазіі, Нагорным Карабаху, Паўднёвай Асеціі і Прыднястроўі засталіся на старым месцы – нягледзячы на спробы У.Пуціна «паміратварыць» паўсюль. Не прагучала ніводнай новай ідэі па вырашэнні лёсу гэтых спрэчных тэрыторыяў. Адзінае — было вырашана пакінуць расійскі ваенны кантынгент у Абхазіі яшчэ на паўгода.

Але расійскі прэзідэнт не хаваў свайго задавальнення вынікамі саміта. Ён падкрэсліў: «трэба падвысіць каэфіцыент карыснага дзеяння СНД... Механізм дастаткова просты – прынесці рэальную карысць народам Садружнасці». Калі ацэньваць саміт з гэтага пункту гледжання, наўрад ці гэтыя самыя «народы» хутка адчуюць гэту самую карысць.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# *NATO* развaжае пра нас

29 траўня ў Вільнюсе на паседжанні камітэта па грамадзянскім вымярэнні бяспекі ў рамках сесіі Парламенцкай асамблеі *NATO* разглядалася «беларускае пытанне». Парламентарыі 19 краінаў – членаў *NATO* і асацыяваных сябраў запрасілі прадстаўнікоў Беларусі, каб выслухаць іх ацэнку сітуацыі ў краіне напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

Фармат вясновай сесіі ПА *NATO* быў зменены: замест дэлегацыі ВС у Вільнюс паехалі Аляксандр Фядута, прэзентаваны як кіраўнік даследчага Цэнтра «Сацыяльныя тэхналогіі», старшыня Беларускай партыі жанчынаў «Надзея» Валянціна Палевікова ды ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч.

Увагу беларусаў перш за ўсё прыцягнуў даклад віцэ-прэзідэнта ПА *NATO* Маркуса Меркеля і старшыні падкамітэта па дэмакратычным кіраванні Элісан Мехон, якія пабывалі ў Мінску 25-27 сакавіка. У ім адзначаецца, што «прэзідэнцкія выбары, якія пройдуць сёлета, з'яўляюцца своеасаблівым тэстам для беларускай дэмакратыі». Дэлегацыя прыйшла да высновы, што «на момант візіту дэлегацыі непарламенцкія апазіцыйныя сілы складаюць не больш за 10-15% (максімум 20%) электарату, і ні адзін з кандыдатаў ад апазіцыі не набярэ больш за 5% галасоў (супраць 40% за Лукашэнку)». Аднак натаўцы лічаць, што «патэнцыял для дасягнення пераўтварэнняў можа быць дасягнуты, калі апазіцыя здолее аб'яднаць свае сілы». Пры гэтым стварэнне «тройкі» (цяпер ужо «пяцёрка») патэнцыйных кандыдатаў ахарактарызаванае як «пападанне апазіцыі ў цэль». Яшчэ адна важная дэталь, на якую звярнулі ўвагу натаўскія дэпутаты. «Заходнія дыпламаты падкрэсліваюць, што наяўнасць камбінацыі з чатырох лідэраў – гэта найлепшая кааліцыя для забеспячэння шырокай падтрымкі насельніцтва», — гаворыцца ў дакладзе.



Тым не менш, *NATO* дужа скептычна ацэньвае шанцы апазіцыі на перамогу. «Калі раптам не аб'явіцца фігура на палітычнай арэне, падобная Каштуніцу, што не дужа рэальна, то шанцы прэзідэнта Лукашэнкі стаць прэзідэнтам на наступныя чатыры гады дужа вялікія».

Пра змяненні на Беларусі, якія адбыліся за два месяцы пасля візіту дэлегацыі ПА *NATO* ў Мінск, і расказвалі беларускія палітыкі. Разгляд «беларускага пытання» каментуе старшыня партыі жанчын «Надзея» Валянціна Палевікова. «Абмяркоўваўся даклад, падрыхтаваны дэлегацыяй ПА *NATO* па выніках візіту ў Мінск у сакавіку. Найбольш парламентарыяў цікавіла напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, ці будуць змены па накірунках, адлюстраваных у дакладзе. Прыемна было, што вельмі вялікая ўвага надавалася беларускай тэме. Мы ўжо прызвычаіліся, што Беларусь усім надакучыла, і нам здавалася, што Беларуссю ніхто ўжо не цікавіцца. Аднак інтарэс праяўлены вялікі, і гэта зразумела. Беларусь усё ж знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, Польшча ўступіла ў *NATO*, прыбалтыйскія дзяржавы рыхтуюцца ўступіць».

«Я як палітык гаварыла пра сітуацыю напярэдадні парламенцкіх выбараў, прадставіла пазіцыю апазіцыі, нагадала пра чатыры ўмовы, пастаўленыя АБСЕ перад беларускімі ўладамі. Сказала, цяпер беларускі народ цікавяць два пытанні: за каго галасаваць і ці будуць вынікі выбараў падтусаваныя, ці будуць справядлівыя. Улада таксама разумее, што на гэтыя пытанні трэба адказваць, і адказвае па-свойму», — падкрэсліла В.Палевікова.

Партыйны лідэр давяла да ведама натаўскіх дэпутатаў выказванне Лукашэнкі на Усебеларускім сходзе пра тое, што «*NATO* падрыхтавала і кіне ў выбарчую кампанію апазіцыі 800 мільёнаў долараў».

**Рыгор БУЯН**

# Журналісцкі спарынг

*31 траўня ўпаўнаважаны АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Фраймут Дувэ пераабраны яшчэ на адзін трохгадовы тэрмін на гэтую пасаду.*

Праўда, асабіста Ф.Дувэ на выбарах не прысутнічаў: гэтым часам еўрапейскі чыноўнік сустракаўся з прадстаўнікамі дзяржаўных і незалежных СМІ Беларусі. Сітуацыя са станам прэсы на Беларусі выклікае крайнюю занепакоенасць Еўропы. Фраймут Дувэ планаваў асабіста прыехаць у Мінск для маніторынгу сітуацыі яшчэ напрыканцы сакавіка, але ўлады настойліва раілі яму перанесці прыезд на месяц. У канцы красавіка ўжо Ф.Дувэ адмовіўся прыехаць у Мінск, бо беларускі ўрад адмовіўся выдаць уязную візу галоўнаму саветніку Дзіяне Моксі. Каб хоць неяк кампенсаваць сваё ўяўленне пра беларускія мас-медыя напярэдадні чакаемых прэзідэнцкіх выбараў, Фраймут Дувэ запрасіў у Вену «чэсных» і «нячэсных» журналістаў. Склад дэлегацыі ад незалежных СМІ быў вядомы загадзя: у Вену паехалі прэзідэнт БАЖ Жана Літвіна, віцэ-прэзідэнт Эдуард Мельнікаў, прэзідэнт інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Алесь Ліпай, галоўны рэдактар інфармацыі БелаПАН Уладзімір Глод, кіраўнік Цэнтра прававой дапамогі СМІ пры БАЖ Міхаіл Пастухоў, эксперт Цэнтра намеснік рэдактара часопіса «Абажур» Юрый Тапарашаў, рэдактар «Брестского курьера» журналістка з БДГ Вольга Тамашэўская. Пра склад афіцыйнай дэлегацыі не было звестак да апошняга моманту. Пазней стала вядома, што армію «чэсных» журналістаў прадстаўлялі начальнік аддзела Дзяржкамдруку Лілія Ананіч, намеснік рэдактара «Советской Белоруссии» Міхаіл Лебедзік, журналістка Беларускага тэлебачання Людміла Кавалёва.

Фраймут Дувэ арганізаваў у штаб-кватэры АБСЕ своеасаблівыя слуханні па сітуацыі беларускіх мас-медыя. Апрача непасрэдных удзельнікаў мерапрыемства, на слуханнях прысутнічалі прадстаўнікі Румыніі, Чэхіі, ЗША, Расіі пры АБСЕ, прадстаўнік беларускай амбасады ў Вене. Прадстаўнікі недзяржаўнай прэсы рабілі даклады па сітуацыі са СМІ па розных накірунках, а афіцыйная дэлегацыя ўстаўляла свае рэплікі. Вядома, «чэсныя» журналісты спрабавалі абвергнуць многае з таго, што гаварылі «нячэсныя». Ход і вынікі слуханняў каментуе кіраўнік Цэнтра прававой дапамогі журналістам Міхаіл Пастухоў.

«Фраймуту Дувэ было відавочна, што недзяржаўныя СМІ знаходзяцца ў няроўных эканамічных умовах з дзяржаўнымі; адзначаліся факты дыскрымінацыі незалежнай прэсы, эканамічнага ды іншага ўціску на яе. Асаблівая ўвага звярталася на тое, што на недзяржаўным тэлебачанні надзвычай рэдка выступаюць прадстаўнікі палітычнай апазіцыі. У прыватнасці, Дувэ рэкамендаваў Беларускаму тэлебачанню ў асобе Кавалёвай арганізаваць нешта падобнае на грамадскія слуханні журналістаў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, каб разам можна было абмяркоўваць праблемы. І нават была прапанаваная назва – «Прэс-клуб», – адзначыў М.Пастухоў. – Журналісты дзяржаўных СМІ гаварылі, што на Беларусі існуюць абсалютна роўныя ўмовы для ўсіх СМІ. Мы ж, у сваю чаргу, наадварот, спрабавалі даказаць, што праяўляецца выразная тэндэнцыя на абмежаванне свабоды слова на Беларусі. У тым ліку звярталі ўвагу на папраўкі да Закона аб друку, новыя пункты артыкула 5, якія прадугледжваюць адказнасць за злоўжыванне свабодай слова, на новыя склады крымінальных злачынстваў, якія прадугледжваюць павышаную адказнасць за паклёп і зневажанне прэзідэнта.

Асаблівую занепакоенасць мы выказалі падрыхтоўкай законапраекта «Аб інфармацыйнай бяспецы», які ўстанаўлівае практычна татальны кантроль дзяржавы над дзейнасцю СМІ, устанаўлівае сістэму спецыяльных органаў дзяржаўнай улады, якая мусіць кантраляваць інфармацыйную дзейнасць: у асобе Дзяржкамдруку, КДБ, спецыяльнага інфармацыйнага цэнтра пры прэзідэнце РБ. Гэты законапраект мусіць стаць базавым для прыняцця новых дакументаў у гэтай сферы. Па нашай інфармацыі, ён мусіць быць разгледжаны сёлетняй восенню. Гэта азначае, што прапануецца не прамая цэнзура, а, як было сказана, сістэмная цэнзура», — сказаў Міхаіл Пастухоў. На выніковай прэс-канферэнцыі ўпаўнаважаны АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ не хаваў заклапочанасці сітуацыяй на Беларусі. Фраймут Дувэ сказаў: «Я лічу, што хісткае становішча незалежных медыя, якое назіраецца апошнім часам, можа яшчэ пагоршыцца цягам выбараў. Наколькі я ведаю, усе грамадзяне Беларусі плацяць немалыя падаткі на дзяржаўныя СМІ, але я не ведаю, як шмат грошай выдаткоўваецца на іх утрыманне. Дзяржаўныя СМІ і прыватныя медыя знаходзяцца ў вельмі рознай эканамічнай сітуацыі».

Па выніках слухання Фраймут Дувэ падрыхтуе спецыяльныя рэкамендацыі па «беларускім пытанні» кіраўніцтву АБСЕ.

**Рыгор БУЯН**

# Заявление США по Беларуси

**Джосайя Б. Розенблатт, поверенный в делах миссии США в Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе, заявил 24 мая в Постоянном совете ОБСЕ:**

«...Мы по-прежнему озабочены продолжающимися нападками белорусских властей на посла Вика и деятельность Консультативно-наблюдательной группы (КНГ).

Соединенные Штаты выступают за диалог КНГ с белорусскими властями, равно как и за диалог КНГ с оппозицией и гражданским обществом. Оба вида деятельности нормальны и приемлемы для миссии, обязанной поддерживать становление демократических институтов...

Как неоднократно заявляли мы и другие страны, представленные за этим столом, Соединенные Штаты считают деятельность КНГ полностью соответствующей ее мандату. Белоруссии повезло, что такой опытный и умелый дипломат, как посол Вик, возглавляет КНГ и активно выполняет ее мандат.

Обоснованная программа по внутреннему наблюдению за выборами имеет центральное значение для проведения свободных и честных выборов в соответствии с международными стандартами. Это также полностью соответствует обязанности КНГ развивать демократические институты... Без такой программы в Белоруссии трудно понять, как международное сообщество сможет признать президентские выборы легитимными.

Участие КНГ в этой деятельности никогда не было тайной. Фактически посол Вик докладывал совету о работе этой сети на предыдущих выборах. Он неоднократно проводил консультации о своей работе с белорусскими властями.

Утверждение о том, что программа по наблюдению за выборами содержит элементы оппозиции, справедливо. Однако это не делает ее спорной. Наоборот, это придает ей убедительность.

Подобные усилия, направляемые представителями и сторонниками правительства, не являются программой внутреннего наблюдения. Это группа, агитирующая за избрание действующей власти на новый срок.

Г-н председатель, Соединенные Штаты готовы признать результаты президентских выборов в Белоруссии, соответствующих международным стандартам по свободным и честным выборам, включая критерии, установленные тройкой ОБСЕ.

Мы призываем белорусские власти воспользоваться возможностью, создаваемой этими выборами, и прекратить навязанную самим себе изоляцию.

# ВРЕМЯ ВЫБИРАТЬ!






 

# Аўгуст, Пётр і полацкае золата

## Многія сталіцы аздоблены нарабаваным у Беларусі

*У часы Берлінскай сцяны працаваў я інжынерам-кансультантам у былой ГДР. Па рабоце многа ездзіў па гарадах. Вельмі ўразіла мяне Саксонія з яе сталіцай Дрэздэнам. Саксонскі курфюрст – Аўгуст II Моцны з 1697 па 1706 і з 1709 па 1733 год узначальваў нашу дзяржаву – Рэч Паспалітую (Рэспубліку) – быў каралём польскім, Вялікім князем Літоўскім і г.д. У Дрэздэне і ў навакольных замках многа захавалася нашых сімвалаў тагачаснай нашай дзяржаўнасці. Вельмі многа выстаўлена посуду – парцалянавых талерак, на дне якіх яркімі фарбамі нанесены па крузе: польскі арол – наша Пагоня – арол – Пагоня. На Каронных варотах Цвінгера – тагачаснай рэзідэнцыі курфюрста і цяперашняга музейнага комплексу – красуецца выява нашай Пагоні. У замках можна ўбачыць партрэты тагачасных нашых дзеячаў Чартарыйскіх і Радзівілаў.*

Але знайшоў я ў музеі Цвінгер і экспанат, які мяне вельмі ўразіў і абурыў – гэта конаўка з золата, чэрні, сапфіраў і перлаў даўжынёй 23 сантыметры. «Этот древнерусский ковш по приказу царя Ивана Грозного из золота, привезенного из завоеванного им в 1563 году Полоцка. В начале XVIII века Петр Великий подарил ковш своему союзнику в Северной войне королю Польши и курфюрсту Саксонии Августу Сильному. Это был поистине царский подарок, так как ковш представляет собой один из важнейших шедевров русского ювелирного искусства эпохи Ренессанса» – так на рускай мове распавядае тагачасны Дрэздэнскі музейны альбом пра гэты экспанат.

Золата – тыя ж грошы. Паспрабаваў я падлічыць, на колькі каўшоў абрабаваў беларусаў Іван Жахлівы, узяўшы рост на 2% гадавых. За 438 гадоў, прайшоўшых з таго часу, калі былі абрабаваны Полацак рускімі, золата тое вырасла ў 5.846 разоў. Аж не верыцца! Вось дзе залаты запас беларусаў!

Гэтая конаўка дала штуршок для вывучэння Паўночнай вайны 1700–1721 гадоў, у якую мы былі ўцягнутыя з 1704 года. Фактычна Еўропа, баючыся шведаў і турак і ўзяўшы ў саюзнікі Пятра I, узмацніла Расію, у першую чаргу, сваімі мазгамі.

1706 год. Пётр наказвае свайму міністру ў Вене «...стараться о найме добрых генералов, особенно двух для пехоты и для кавалерии, искуссных и из знатных родов, чтобы можно было их и в советы призывать, обещая им (тайно) сверх жалованья 1.000 и 2.000 рублей».



Конаўка з полацкага золата, нарабаваная Іванам Грозным

Тэхналогія вырошчвання героя была распрацаваная расійцамі ў Беларусі, у бітве са шведамі пры Лясной, а не ў вайне 1939–1945 гадоў, калі за ротай Аляксандра Матросава ляжалі з пулямётамі НКУСаўцы. «Казаки и калмыки имели повеления, стоя за фруктом, колоть всех наших, кои побегут или назад подадутся, не исключая самого государя».

Цікавае паведамленне аб норавах расійцаў у тыя часы чытаем у «Живописной России»: «Петр I заметил зажиточность жителей Могилева и, опасаясь, чтоб Карл XII не избрал его пунктом опоры в военных движениях, повелел двум полкам – калмыцкому и татарскому – сжечь город. И это ужасное повеление, 8 сентября 1708 года, в точности было исполнено. Сперва жители были совершенно ограблены...» Гляджу па тэлебачанні на «цыбуліны» цэркваў маскоўскага Крэмля, і мне здаецца, што пазалота іх зробленая ўжо з магілёўскага золата, з нашага залатога запасу. Магілёў у тыя часы па багацці быў саапернікам сталіцы Вільні, ды і па велічыні не малы – аж два карныя палкі палілі.

З паразай Карла XII у Палтаўскай бітве палажэнне Левабярэжнай Украіны, якая мела фармальную аўтаномію ў складзе Расіі і якая хацела з помаччу Карла XII увільнуць ад абдымкаў расійцаў, значна ўскладнілася. Перад бітвай «Мазепа собрал малороссийских старшин, с их согласия послал племянника своего Войнаровского к отсутствующему Петру с жалобами на нарушения прав народа и с смиренной просьбою о подтверждении оных. Петр, еще более усомнясь, велел взять Войнаровского под стражу. Он успел убежать». Мазепа скора памёр. Запарожцы выбралі гетманам Орліка, зноў жа па паходжанні беларуса. Разумны мы народ. Быў? Але там атрымалася двоеўладдзе. «Стародубский полковник, слабоумный Скоропадский, вольными голосами избран в гетмана. Сам Петр вручал ему булаву *tec*».

Потым быў загадкавы Пруцкі паход Пятра, дзе ён з 38.000 войска папаў у акружэнне турак з 270.000 войска. Але і тут справу ў свае рукі ўзяла Кацярына, жонка Пятра, былая жонка шведскага трубача з нашым прозвішчам. Пётр у роспачы залез у палатку і не выходзіў з яе. Кацярына аддала візіру, галоўнакамандуючаму турэцкай арміі, алмазы і грошы. У Турцыі, як і ў Расіі, цвіла і цвіце карупцыя. Быў заключаны мір, дзе пад п.4 напісана: «Вывести из Польши русское войско и не вмешиваться нам в польские дела». Цікавы пункт, калі ўлічыць, што Аўгуст быў саюзнікам Пятра.

Загінуўшая праз падзелы Рэч Паспалітая стала прычынай паразы Турэцкай імперыі ў вайне з Расійскай. Ды і сусветныя войны XX стагоддзя былі абумоўленыя ў асноўным вынікам гібелі Рэспублікі. Галодным народам усё здавалася, што іх ашукалі пры дзеляжы нас.

Але вернемся да тых падзеяў. Карл быў у Бендэрах. Панятоўскі даў знаць Карлу, той прыскакаў «о дву конь». Але было позна – мір быў парафіраваны. Карл шпорай парваў візіру адзенне. Потым аб здрадзе візіра распавёў турэцкаму султану. Султан саслаў візіра ў ссылку, там па загадзе султана яго, як звычайна ў Турэччыне, задушылі.



Дрэздэн. Каронная брама. Наверсе ёсць выява Пагоні

Расія падправіла свае справы шведскімі ўладаннямі. На землях чухонцаў усталявала сваю сталіцу, бліжэй да Еўропы. Расійцы прынеслі чухонцам сваю цывілізацыю: «Петр, заметя на чухонцах худую обувь, выписал из Нижегородской и Казанской губерний лучших лапотников, дав им один рубль в неделю кормовых денег, для обучения чухонцев плести лапти. Пасторы каждый месяц должны были доносить выборгскому правлению о их успехах». Магчыма, чухонцы, замяніўшы свае чуні на расійскія лапці, папрастуджваліся і вымерлі. Бо штосьці не чуваць аб гаспадарах той зямелькі.

26 жніўня 1718 года быў заключаны «саюз» паміж Пятром I і Карлам XII.

«...Статьи сепаратные состояли в следующих пунктах:

1. Поелику король Шведский не может и не хочет помириться с королем Августом,

а Петр им весьма недоволен,

а король Август думает сделать престол польский наследственным (что явно противно правам и вольностям Речи Посполитой),

то – принудить его к отрицанию от престола, а на оный возвести короля Станислава, взяв с его обещание о генеральной амнистии и проч. и проч.

Король шведский и русский царь обещает друг другу помогать оружием в сем случае.

Карл XII, развязаўшы сабе рукі «союзом», пайшоў ваяваць у Нарвегію, дзе 30 лістапада 1718 года быў забіты карцеччу на 37-м годзе свайго жыцця. Пётр плакаў па ім. Не стала каму памагаць.

**Аркадзь БЛІНКОЎСКІ**

# Любимая песня Хаджи-Мурата

*На Кавказ Толстой отправился в поисках смысла жизни, положительного идеала. В Чечню он приехал 30 мая 1851 года и практически сразу окунулся в самую гущу жизни чеченцев и казаков, завел среди них друзей. Анализ дневника и писем этого периода его жизни (он прожил в Чечне до января 1854 года) убеждает в том, что Толстой постоянно стремился «понять духовный строй жизни местных народов», их нравы и обычаи, вынести собственные впечатления о них.*

«...Приехал Садо, я ему очень обрадовался», — записывает он в дневник 25 августа 1851 года, то есть на третий месяц по приезде в Чечню. «Часто он доказывал мне свою преданность, — писал Толстой об этом человеке с Кавказа, — подвергая себя разным опасностям для меня; у них это считается за ничто — это стало привычкой и удовольствием».

Лев Толстой и Садо Мисирбиев, охотясь, наткнулись на группу всадников, и они попытались пленить Толстого. Мисирбиев, сообразуясь с кодексом чести чеченцев, когда хозяин даже ценой своей жизни обязан обеспечить неприкосновенность гостя, отстоял Толстого.

Размышления Льва Николаевича Толстого о судьбе горцев и вообще о человеке, занятом «несправедливым и дурным делом — войной», легли в основу кавказского цикла его творчества («Набег. Рассказ волонтера», «Рубка леса. Рассказ юнкера», «Из кавказских воспоминаний. Разжалованный», «Записки маркера», «Записки с Кавказе. Поездка в Мамакай-Юрт»). Толстой привнес в литературу образы военных, на которых отрезвляюще подействовала новая общественно-политическая среда. Если раньше в Кавказской войне они видели романтику, возможность отличиться, сделать быструю карьеру, то теперь, находясь много лет подряд в военных походах, они увидели ее будничную сторону, жестокость и никчемность. Таково же было и настроение рядовых русских солдат.

«Что за вздор и путаница? — думал он (Оленин. — **Х.Т.**) — ...Человек убил другого и счастлив, доволен, как будто сделал самое прекрасное дело. Неужели ничто не говорит ему, что тут нет причины для большой радости...» («Казаки»).

В 1852 году Толстой записал русскими буквами две чеченские народные песни — со слов Садо Мисирбиева и Балты Исаева.

«Ты, горячая пуля, смерть носишь с собой» и «Высохнет земля на могиле моей» — две чеченские песни, которые позднее Толстой ввел в повесть «Хаджи-Мурат» (1896-1904). Вспомним: по просьбе Бутлера переводчик пересказывает ему содержание песни, исполненной Ханефи, названным братом Хаджи-Мурата. Вот этот текст: «Высохнет земля на могиле моей, и забудешь ты меня, моя родная мать. Порастет кладбище могильной травой, заглушит трава твое горе, мой старый отец. Слезы высохнут на глазах сестры моей, улетит и горе из сердца ее. Но не забудешь меня ты, мой старший брат, пока не отомстишь моей смерти. Не забудешь ты меня, и второй мой брат, пока не ляжешь рядом со мной...» Хаджи-Мурат всегда слушал эти строки с закрытыми глазами и, когда мелодия кончалась протяжной, замирающей нотой, всегда по-русски говорил: «Хорош песня, умный песня».

Интерес Толстого к горской песне был глубок и постоянен. Он восхищался силой чувств, заключенных в горском фольклоре. «Особенно трогательна была для него (Ерошки. — **Х.Т.**) одна тавлинская песня. Слов в ней было мало, но вся прелесть ее заключалась в печальном припеве: «Ай! Дай! Далалай!». Ерошка перевел слова песни: «Молодец погнал баранту из аула в горы, русские пришли, зажгли аул, всех мужчин перебили. Всех баб в плен побрали. Молодец пришел из гор: где был аул, там пустое место. Матери нет, братьев нет, дома нет; одно дерево осталось. Молодец сел под дерево и заплакал. Один, как ты, один остался, и запел молодец: ай, дай! Далалай!» И этот завывающий, за душу хватающий припев старик повторил несколько раз».

Толстой использовал народные песни для передачи психологического состояния их героев в трагические минуты их жизни. «Все было тихо. Вдруг со стороны чеченцев раздались странные звуки заунывной песни... Ай! Дай! Да-ла-лай... Чеченцы знали, что им не уйти, и, чтоб избавиться от искушения бежать, они связались ремнями, колено с коленом, приготовили ружья и запели предсмертную песню...» Так органически вплелись в ткань произведения писателя национальный мотив и народная сила.

Кавказ сильно повлиял на жизнь Льва Толстого. «Я стал думать так, как только раз в жизни люди имеют силу думать. У меня есть мои записки того времени, и теперь, перечитывая их, я не мог понять, чтобы человек мог дойти до такой степени умственной экзальтации, до которой я дошел тогда... Это было и мучительное и хорошее время. Никогда, ни прежде, ни после, я не доходил до такой высоты мысли, как в это время... И все, что я нашел тогда, навсегда останется моим убеждением».

...Дружба Льва Толстого с чеченцами осталась в их благодарной памяти как момент исторической истины, когда русским графом были поняты и искренне оценены их дух и национальная открытость.

Именем Льва Толстого в Чечне были названы улицы, скверы и села. Ему были воздвигнуты памятники, открыты музеи. Его именем был назван Чеченский государственный университет, и в сквере университета был поставлен памятник Толстому. Он, к сожалению, как и университет, разрушен военными действиями в Грозном. В станице Старогладковской в Чечне уцелел Дом-музей Льва Толстого благодаря мужеству его директора Хусейна Загибова, который неоднократно вступал в перестрелку с теми, кто хотел уничтожить этот святой для чеченцев приют.

Чеченцы убеждены, что придет время, когда народ сегодняшней России пробудится и осознает так же, как его великий сын: **«...Война такое несправедливое и дурное дело, что те, которые воюют, стараются заглушить в себе голос совести...»**

**Хасан ТУРКАЕВ**
**Og.ru**

**АКЦЫІ**

## Свята пісьменнасці на мяжы зрыву

Рэспубліканскія міністэрствы і ведамствы фактычна ігнаруюць падрыхтоўку да правядзення Дня беларускай пісьменнасці ў Мсціслаўі. Такую выснову можна зрабіць з выказванняў намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкама Анатоля Глаза на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 1 чэрвеня ў Магілёве.

Паводле словаў А.Глаза, спачатку абласныя структуры распрацавалі праграму правядзення свята, якая ўключала ў сябе рэстаўрацыю і добраўпарадкаванне будынкаў і вуліцаў Мсціслаўя, помнікаў культуры. На гэтыя мэты вобласць гатова была выдаткаваць 1 мільярд рублёў і разлічвала атрымаць 2 мільярды рублёў ад рэспублікі. Аднак удзел рэспубліканскіх структураў у падрыхтоўцы Дня беларускай пісьменнасці скараціўся да 180 мільёнаў рублёў, і цяпер асноўную фінансавую нагрузку панясе вобласць.

«Дзень беларускай пісьменнасці будзе адзначаны дастойна, але для вобласці гэта будзе зрабіць вельмі цяжка», — лічыць Анатоль Глаз. Кульмінацыяй свята павінна стаць адкрыццё ў Мсціслаўі помніка паплечніку першадрукара Івана Фёдарава Пятру Мсціслаўцу. Зараз існуюць тры праекты помніка, з якіх будзе выбраны адзін.

**Канстанцін УВАРАЎ**

ВІТРАЖ

## Было б жаданне

У французскім горадзе Фрэжус дама нарадзіла дзіця. У гэтым не было нічога цікавага, калі б не ўзрост парадзіхі – ёй 62 гады, і яна стала самай старэйшай з жанчын Францыі, якія нараджалі ў сталым веку. Пры гэтым, што варта ўвагі, і маці, і немаўлятка добра пачуваюцца. Калі б гэтая дама крыху памарудзіла б з нараджэннем дзіцяці, яна стала б уладальніцай сусветнага рэкорда па познім мацярынстве і яе імя ўвашло б у Кнігу рэкордаў Гінеса. Як у гэтай кнізе пазначана, самымі старэйшымі маці сталі ў 1994 годзе італьянка ва ўзросце 63 гадоў, а праз два гады такога ж веку жанчына з Амерыкі. Абедзве яны прайшлі спецыяльнае лячэнне, якое дазволіла ім зачаць дзіця. Сутнасць лячэння зводзіцца да трансплантацыі апладатвораных яйцаклетак ад жанчыны-донара дзетароднага ўзросту.

Радасць французскай маці была азмрочаная пасля таго, як праваахоўныя органы пачалі расследаванне ўмоваў, пры якіх дзіця з'явілася на свет. Справа ў тым, што ў Францыі забароненыя тэхналогіі, якія дазваляюць жанчынам ва ўзросце менапаўзы нараджаць дзяцей. Праваахоўнікі мяркуюць, што менавіта такое лячэнне зведала французская рэкардсменка. Калі яны здолеюць гэта даказаць, дык не ўстрымаюцца, каб не сапсаваць непрыемнасцямі настрой шчаслівай маці.

**Галіна КВЯТКОВІЧ**

## Па прыкладзе Джэймса Бонда

Сухапутныя войскі ЗША заплацілі мільён долараў за браніраваны пікап, абсталяваны падобна знакамітай машыне агента 007. Па звестках брытанскай газеты «Таймс», заказаў гэты тэхнічны цуд спецыяльны цэнтр Арміі ЗША. Яго кіраўнік Дэніс Уэнд шчыра паведаў у інтэрв'ю, што перад тым яны ўважліва «прагледзелі ўсе старыя фільмы пра знакамітага Джэймса Бонда». Базавай машынай стаў пікап «Форд - F350». За яго заплацілі 45 тысяч долараў, а мільён каштавалі браня, абсталяванне і ўзбраенне. У выніку машына можа выліць перад пераследнікамі на дарогу лужыну масла, пакідаць за сабой дымавую заслону ці воблака перачнага газу, а таксама добра ўсейваць дарогу цвікамі.

Меры бяспекі прадугледжваюць браніраванае шкло, здольнае вытрымаць стрэл ва ўпор з буйнакалібернага рэвальвера «Магнум», і сюрпрыз для злодзеяў — дотык рукой да дзвярной ручкі пазбавіць чалавека прытомнасці на некалькі хвілінаў.

Асобым гонарам гаспадароў гэтага незвычайнага пікапа стала лазерная гармата, якая наводзіцца тэлекамерамі і здольная знішчаць міны ці гранаты, якія могуць выпусціць па аўтамабілі ворагі. Журналістам быў нават прадэманстраваны фільм, які зафіксаваў выпрабаванні машыны ва ўмовах, набліжаных да рэальных баявых умоваў. У прыватнасці, быў паказаны адпор групе «наймітаў», узброеных базукамі, якія паспрабавалі напасці на звычайны знешне пікап.

Гэты цуд тэхнікі, які ўвасабляе кінафантазіі, будзе выкарыстоўвацца для перавозкі высокапастаўленых асобаў у тых месцах, дзе існуе пагроза сутыкнуцца з тэрарыстычнай акцыяй.

**Віктар ТУМАШ**

## Любоў да маці

Тыдзень таму ў невялікім амерыканскім гарадку ў штаце Айдаха шэрыф і яго памочнікі, якія арыштавалі жанчыну-ўдаву за дрэнныя адносіны да дзяцей — пабіла малодшага сына ботам па галаве, і ўявіць не маглі, чым іхнае заступніцтва абернецца. Калі яны, пасля арышту маці, паспрабавалі забраць дзяцей, каб перадаць іх службе дзіцячай апекі, усе шасцёра дзетак забеглі ў дом і выпусцілі на прадстаўнікоў закона зграю сабак, вымуштраваных забіваць аленяў і ласёў і вядомых яшчэ тым, што вынішчылі ўсіх астатніх сабак у акрузе. Абаронцам закона прыйшлося адстрэльвацца з паліцэйскіх рэвальвераў, бо зграя налічвала 27 сабак, і сабакі вярнуліся ў дом, дзе зачыніліся дзеці арыштаванай. Памочнікі шэрыфа агарадзілі месца, каб туды не патрапілі журналісты і цікаўныя, і пачалі чакаць, пакуль дзеці разам з сабакамі здадуцца. Але ўжо некалькі дзён яны не збіраюцца падымаць белы сцяг. На загадзе шэрыфа ў доме адключаны водаправод, электрычнасць і тэлефон. Спробы пачаць перамовы з дзецьмі з дамамогай мегафона застаюцца без адказу. Штурм дома звязаны з неабходнасцю перастраляць два дзесяткі верных гаспадарам і лютых сабак, што ператварае акцыю ў сапраўдную бойню і трагедыю.

Удава, хоць і была арыштавана за насілле над дзецьмі, атрымала ад іх неаспрэчны доказ вернасці і любові.

**Алена КАЗАЧЭНКА**




# Нешта губляем, штосьці знаходзім

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе Эдуард Малафееў, якому ў дзень сустрэчы з камандай Арменіі споўнілася 59 гадоў, падчас шматлікіх інтэрв'ю напярэдадні матча падкрэсліваў, што лепшым падарункам для яго стане, ну, самі ведаеце што... Настаўнік зусім не хітраваў: перамога для беларускіх футбалістаў была рэальнай як ніколі, таму што перад адборачным матчам у Ерэване гаспадары ўжо, як кажуць, не мелі ніякай матывацыі, даўно страціўшы надзеі на магчымасць трапіць у наступным годзе на чэмпіянат свету ў Карэю і Японію; адразу пяць гульнякоў асноўнага складу з-за траўмаў не маглі выйсці на «Раздан»; з'явіліся, і не без падставы, чуткі аб вялізных ганарарах, якія чакаюць кожнага з каманды Малафеева ў выпадку ўдалага выступлення ў 5 адборачнай групе, што, канешне, павінна было надаць моцы.*



Фота Міхала ШОСТАКА

● Беларускі футбол: са шчытом ці на ім?

Пачэсны радок у турнірнай табліцы захаваць удалося, але вось набыткам атрымаўся не надта багатым: нічыя, толькі ачко, а калі б гульня працягнулася яшчэ на некалькі хвілінаў, не ўпэўнены, вынеслі б нашы хлопцы ногі і не прывезлі б дамоў «баранку»?

Першая чвэрць сустрэчы была цалкам за беларускімі футбалістамі, якія здолелі зрабіць у вароты саперніка ажно тры галявыя моманты, праўда, дзякуючы «дзіцячым» памылкам абароны гаспадароў. Даганяў, абгаяў любога абаронцу нападаючы Раман Васілюк, але фартуна і, перш за ўсё майстэрства, была не на яго баку. У другім тайме гэта зразумеў і Эдуард Васільевіч, які замяніў адзінага беларускага форварда. У сярэдзіне тайма гульня пайшла ў спакойным тэмпе, але на самай апошняй хвіліне Віктар Шунейка з вельмі зручнай пазіцыі трапіў мячом пасля ўдару галавой у перакладзіну, нібы дэманструючы ўсім, што калі мы вернемся, зразумела, пасля перапынку, дык і галявых момантаў «настругаем» зашмат і самых галоў накалоцім.

Другі тайм перавярнуў усё з ног на галаву. Невядома, што стала прычынай дрэннай гульні – 30-градусная жара ці слабая функцыянальная падрыхтоўка, «энергетычная» яма, у якой апынуліся, не паспеўшы добра прайсці акліматызацыю, але гаспадары рабілі з беларусамі што хацелі. І калі б южанам натуральна хапала нават элементарнага майстэрства, быць бядзе. Ужо даўно мы звярнулі ўвагу, што гульня беларускай зборнай вельмі залежыць ад узроўню на гэты час майстэрства, якое дэманструюць яе лідэры – кіеўскія дынамаўцы Аляксандр Хацкевіч і Валянцін Белькевіч. Некалькі тыдняў таму з'явілася інфармацыя, што дынамаўскі настаўнік Валерый Лабаноўскі нібы за зніжэнне патрабаванняў да сябе і, як след, пагаршэння гульні перавёў у дублюючы састаў кіяўляна Хацкевіча. Найбольш гарачыя беларуская журналісты ўглядзелі ў гэтым нават правакацыю супраць беларускага футбола: Валерый Васільевіч зрабіў наўмысна, каб бедны наш Саша не паспеў як след падрыхтавацца да выступлення ў нацыянальнай зборнай, якая, як вядома, вядзе барацьбу з украінцамі ў адной адборачнай групе і разам з палякамі прэтэндуе на ўдзел у чэмпіянаце свету. Цікава, якія зараз яны дадуць каментары пасля «аніякай» гульні нашых хвалёных легіянераў? Сашы ды Валіка Бялькевіча, якіх з такімі абыякавымі адносінамі да сваіх прафесійных абавязкаў і ў дубль нельга пускаць. Дарэчы, гэты тандэм паказвае часцяком дзівосную і непрадказальную гульню. Зараз у Ерэване. У паядынку з украінцамі. Такая сінусоіда з «пяцёркі» на «двойку» павінна насцярожыць трэнерскі штаб. Хаця, выбару ў іх і так няма.Трэба ісці на паклон легіянерам. Толькі два футбалісты, якія гуляюць у першынстве Беларусі, выйшлі на поле ерэванскага стадыёна – Мілеўскі ды Васілюк, але і тых змянілі, а «палачка-выручалачка» з-за мяжы ледзь не зламалася. Нават цяжка і прыгадаць, хто з футбалістаў правёў матч на ўзроўні. Здаецца, што клас беларускай зборнай нібы застыў яшчэ з той памятнай перамогі над галандцамі...

| | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Польшча | 6 | 5 | 1 | 0 | 15-5 | 16 |
| Беларусь | 6 | 3 | 2 | 1 | 7-6 | 11 |
| Украіна | 6 | 2 | 3 | 1 | 6-6 | 9 |
| Уэльс | 6 | 0 | 4 | 2 | 6-8 | 4 |
| Нарвегія | 6 | 0 | 3 | 3 | 4-7 | 3 |
| Арменія | 6 | 0 | 3 | 3 | 5-11 | 3 |

Замены, якія правёў напрыканцы матча Малафееў, былі вымушанымі: трэба было ўмацоўваць абарону, таму што верагоднасць атрымаць у той дзень хаця б «намёк» на падарунак у вобразе аднаго ачка з кожнай секундай станавілася ўсё меншай. На гэты раз пранесла.

Нейкую сумную карціну будучыні ў адборачным турніры скрасіла невялічкая сенсацыя, якую ўтварыў наступны сапернік – зборная Нарвегіі ў Кіеве, згуляўшы з нашымі галоўнымі канкурэнтамі, хутчэй за ўсё ў барацьбе за другое месца, украінскімі футбалістамі, унічыю – 0:0. Лідэры групы – палякі – прайгравалі па ходзе сустрэчы ва Уэльсе, але здолелі вырваць такую неабходную перамогу – 2:1

Спадзявалася на перамогу ў Ерэване і наша маладзёжная зборная, але саступіла з мінімальным лікам – 0:1, адразу ператварыўшыся з аднаасобнага лідэра ў пятай групе, дзе спаборнічаюць тыя ж каманды, што і ў дарослых, у адну з тых, а іх сталася чатыры, якія складаюць лідзіруючы пелетон: Беларусь і Нарвегія – па 12 ачкоў, Польшча – 11, Украіна – 10 пасля шасці тураў.

Як бачым, «армянскі» вояж для беларускага футбола скончыўся няўдала: згубілі больш, чым набылі.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 4 - 10 июня

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***

**Овен.** Неделя начинается в напряженной обстановке, когда необходимо учитывать новые условия большой игры. Как вы обозначите себя в команде, так и пойдет дело летом. Единомышленники, друзья, шахматные партии занимают все ваше внимание. Желательно предусмотреть намечающийся через три недели раскол или крупный скандал в окружающей вас среде.

**Телец.** Похоже, вы все еще никак не отвлечетесь от роковой темы финансов, что немало портит нервов. В минимальной степени амбиции могут быть удовлетворены в среду. Если вы хотите прочно утвердиться, то придется предпринимать какие-то нестандартные шаги, способные за лето привести к цели. Важна чистота помыслов, так как от вашей тактики будет зависеть благополучие команды.

**Близнецы.** В понедельник вероятно обсуждение темы соперничества, потребуется применение вашего багажа сил противодействия. Начните поиск союзников в среду. Если вы грамотно распорядитесь предоставляющимися новыми возможностями, то к сентябрю пожнете богатый урожай. Перспективны любые поездки за пределы страны, обозначения в социуме, именно сейчас желательно расширять поле деятельности.

**Рак.** Интриги расцветают в понедельник. Если есть возможность не участвовать — поберегите здоровье, в ином случае рассчитывайте на тренированную нервную и сердечно-сосудистую систему. Жизнь сурова, но милосердна, и вы сейчас способны выстоять в компании, опирайтесь на плечо единомышленника. Не исключено неожиданное предложение о перспективной работе или лечении.

**Лев.** Вы вынуждены вести в понедельник двойственную игру, являющуюся отголосками давно предпринимаемых усилий. Кого-то волнуют дети и их судьба, а кого-то — дружеское участие влиятельного лица. В таком случае, эта неделя — последняя предстартовая ступенька к достижению результата. Но все-таки личная жизнь или подготовка к свадьбе заботит больше всего, и вы готовы посвятить ей все лето.

**Дева.** В понедельник все еще продолжается суета вокруг недавних событий в родном доме или стране. В середине недели коммерческая заинтересованность находит конкретное воплощение, но на ее реализацию потребуется лето. Впрочем, неплохо бы подумать о восстановлении здоровья, может быть — о хирургическом вмешательстве, поскольку через месяц вероятны осложнения.

**Весы.** Чтобы осуществить поездку за границу, уже необходимо срочное урегулирование бюрократических вопросов. В понедельник по этой проблеме или по просьбе общественности предстоят бурные дебаты и суета, поэтому введите регламент на свои действия. Однако вы не прочь пофлиртовать, благо есть повод и личности. А также весьма успешно и оригинально сыграете на публику.

**Скорпион.** Некоторый нагоняй от вышестоящих в понедельник — явление хотя и сильное по энергетике, но пока несерьезное. Придется подумать о выживании, но вам может представиться шанс выгодного помещения или распоряжения капиталом. Стоит быть готовым к получению отдачи в сентябре. Лучше действовать сейчас, ибо через три недели будет поздно и даже небезопасно. Показана своего рода страховая деятельность.

**Стрелец.** В понедельник вы все еще под впечатлением недавнего скандала, острых отношений с супругом или участниками общественных предприятий. Вы лично начинаете отвечать за реформаторские или пиаровские технологии. Неизведанное вовлекает в свою орбиту на целое лето. Кто-то в эйфории любви начнет разъезжать, а кто-то — участвовать в многочисленных представлениях. До июля тщательно подбирайте окружение.

**Козерог.** Легкую депрессию в понедельник не имеет смысла раздувать до непомерных масштабов. Стоит спрятать в более надежном месте свой капитал или, во всяком случае, не идти на рискованные сделки, поскольку ближе к июлю придется спасать положение. Самая потенциально опасная сфера для вас — экономические позиции и программа. На этой неделе вероятно спонсирование или помощь из скрытых источников.

**Водолей.** Вы выходите на передовой рубеж жизненных битв, скорее думая не о собственном благе, а о благополучии знакомых или единомышленников. Сейчас разрабатывается программа действий на предстоящее лето, но смотрите, чтобы ближе к июлю не оказаться козлом отпущения, ибо вы будете подвержены ошибочным действиям, можете впутаться в неблаговидную историю. В среду обозначается легкий роман.

**Рыбы.** Имеет смысл уже сейчас предусмотреть ряд мер на тот случай, если ближе к июлю вас ограничат в свободе. Будь это интриги «доброжелателей», неожиданно изменившееся состояние здоровья или наговоры под видом разоблачения тайн. На этой неделе появится шанс решить ряд финансовых вопросов, не откладывайте их в долгий ящик. Поддержка от домочадцев — как бальзам на душу.

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1717 Нумар падпісаны ў друк 3/06/2001 (15:00) Наклад — 9.050